***Метафарай гэтага тыдня няхай будзе цытата з ліста Аляксандра Рэзніка, палітзняволенага:***

***«Нядаўна на шпацыры бачыў дзьмухаўцы. Яны змаглі прарасці на маленечкім лапіку зямлі праз бетон…»***



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА

У Магілёўскім дзяржаўным універсітэце не працягваюць працу з трыма беларускамоўнымі выкладчыкамі: Віталем Еўмяньковым, Аляксандрам Агеевым і Ігарам Шарухам.



Аляксандр Агееў, Віталь Еўмянькоў, Ігар Шаруха

Антона Сасноўскага, дырэктара івэнт-агенства, якое арганізоўвала ў Мінску канцэрт гурта «Пошлая Молли», аштрафавалі на 2175 рублёў за тое, што падчас канцэрта прысутныя выгукалі «Жыве Беларусь!»

Мікола Папека, паэт, асуджаны на 2 гады «хіміі» па «карагоднай справе». Яшчэ 12 берасцеўцаў асудзілі на тэрміны да 2 гадоў «хіміі» 8 чэрвеня.





Да Наталлі Дырман, вядомай на Берасцейшчыне дзяячкі ў галіне культуры, прыйшлі сілавікі – пасля вобшуку яе затрымалі.




**Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя** атрымала афіцыйнае папярэджанне ад Міністэрства юстыцыі за ілюстрацыі вядомага дызайнера **Уладзіміра Цэслера** ў трэцім нумары партыйнага часопісу «Пазіцыя».



**Ігнат Сідорчык**,
паэт, рэжысёр, актор,
мусіць адбыць на «хімію» 13 чэрвеня.




**Беларускі ПЭН-цэнтр** атрымаў ліст ад Міністэрства Юстыцыі з патрабаваннем прадаставіць спіс дакументаў «у межах правядзення планавай праверкі на прадмет яе [арганізацыі] адпаведнасці патрабаванням заканадаўства Рэспублікі Беларусь і ўласнага статута».

**Дэпартамент фінансавых расследаванняў Камітэта Дзяржкантролю разблакаваў рахункі выдавецтваў «Беларускі кнігазбор», «Янушкевіч» і кнігараспаўсюдніка Knihi.by.**









# 2. СІМВОЛІКА

**Вольга Верамеенка, якую гвалтоўна затрымалі 3-га чэрвеня пасля ператрусу ў краме «Адметнасць», пасля выхаду з гарадзенскага ІЧУ адчувае сябе кепска – ў яе моцна падняўся ціск. Але яе нават у такім крытычным стане здароўя спрабавалі выклікаць у міліцыю для падпісання папераў, што тычацца заведзенай на яе адміністрацыйнай справе аб нібыта пікетаванні ў краме «Адметнасць».**





**Сяргею Бураку прысудзілі 2 гады «хіміі» за некалькі перапостаў сімволікі і абразлівай інфармацыі ў дачыненні да А.Г. Лукашэнкі.**



**Наталлю Івяндзікаву пакаралі 6 суткамі адміністратыўнага арышту за тое, што яна нібыта развешвала бел-чырвона-белыя стужкі на дрэвах. У яе кватэры канфіскавалі кнігу Святланы Алексіевіч.**



**Алене Паўлоўскай пагражаюць звальненнем за бел-чырвона-белыя завушніцы.**





**Яўген Бабак, былы памочніка пракурора Першамайскага раёна Мінска, атрымаў 15 сутак адміністратыўнага арышту за вывешаны бел-чырвона-белы сцяг.**

# 3. ЖЫЦЦЁ ЗА КРАТАМІ



**Андрэй Пачобут даслаў родным ліст, у якім піша, што пасля таго як ён адмовіўся быць дэпартаваным у Польшчу, умовы яго ўтрымання ў турме пагоршыліся: яго перавялі ў іншую камеру, ён падпадае пад пастаянныя праверкі і рапарты пра тое, што стаіць на прафілактычным уліку.**

**11 чэрвеня стала вядома, што ён захварэў на каранавірус.**

# 4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ

**Ірына Свірыд – мастачка, яна дасылае малюнкі палітвязням, а таксама навучае іншых, у тым ліку дзетак, як падтрымаць зняволеных.**









**Святлана Алексіевіч передала на дабрачынны аўкцыён кнігу «Время секонд хэнд», якую яна падпіша для пераможцы.**

**Вольга Якубоўская**
**Паўлу Севярынцу**



**Жанчыны Беларусі правялі перформанс «Дэкальтэ для Беларусі», каб прыцягнуць увагу да праблемы бізнэсаў, якія супрацоўнічаюць з рэжымам.**








**Артысты Перамогі: музычны праект Partyzanski praspekt, які ўтварыўся ў ліпені 2020 году як рэакцыя на рэчаіснасць, зайграў у падтрымку Сяргея Волкава, зняволенага акцёра і рэжысёра.**



**Музыкі падтрымліваюць удзельнікаў мітынга беларусаў на мяжы з Польшчай, які цягнецца ўжо тыдзень.**

# 5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



**Наталка Бабіна, пісьменніца, даслала пранізлівы ліст 75 палітвязням Брэста з трыма асабістымі гісторыямі і зрабіла ліст акдрытым:**

***«Хлопец напісаў з турмы: «Мама, я раней усё думаў: за што я тут? А цяпер думаю: дзеля чаго я тут?» Якая глыбокая думка! Усе мы рана ці позна задумваемся над пытаннем: дзеля чаго мы тут, на гэтым свеце? Усім нам рана ці позна даводзіцца адказваць на гэтае пытанне на судзе — ці на зямным, ці на нябесным, які называюць яшчэ Страшным судом. Момант ісціны надыходзіць для кожнага — і для зняволенага, і для наглядчыка, і для начальніка, і для падначаленага».***

**Ігар Случак, моўны інспектар, разважае на budzma.by, на тэму таго, што беларусы не змагаюцца за беларускую мову ў сферы паслуг.**

***«Іншымі словамі, беларус, які не абараняе сваё моўнае права, стварае ўмовы для дыскрымінацыі іншых беларусаў. Ён робіцца саўдзельнікам дыскрымінацыі».***






**Барыс Хамайда, віцебскі актывіст, выйшаў пасля 8 сутак арышту за бчб парасон і стужкі.**

***«Галоўнае, што я адтуль вынес, – гэта адчуванне блізкага канца гэтага рэжыму. Гэта нябачна візуальна, але дзесьці нібыта ў паветры лунае».***

# 6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

**У Кіеве адкрылася выстава беларускай мастачкі, якая з’ехала з Беларусі, Надзеі Саяпінай «Ліст да мамы».**






**У польскім горадзе Лодзь адкрылася выстава «Да здравствует Беларусь», прысвечаная беларускім пратэстам.**

.






**Беларуская мастачка Ганна Заброцкая, што жыве ў Польшчы, стварае лялькі ў падтрымку барацьбы беларусаў за волю.**

**Заява Французскага ПЭН-клуба адносна сітуацыі ў Беларусі.**

pen CLUB FRANÇAIS





**Рэктар Таллінскага універсітэта Тыну Війк звярнуўся да ўладаў Беларусі з просьбай дазволіць арыштаванаму Аляксандру Фядуту выступіць у анлайнавым фармаце на міжнароднай канферэнцыі, якая мае адбыцца ў Таліне.**



**Больш за 50 вядомых навукоўцаў, журналістаў, культурных і грамадскіх дзеячаў напісалі адкрыты ліст Еўракамісіі з просьбай стварыць Усходнееўрапейскі універсітэт, размешчаны ў ЕС, дзе будуць вучыцца і працаваць «рэпрэсаваныя ці вымушаныя пакінуць свае краіны» людзі.**

